


DISTRICTUS

ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 1 (54) СТУДЗЕНЬ 2007 г.


# БЯЛЬМОНТЫ

У нумары:





*Бяльмонты, ці як іначай часам пішуць - Бяльмонт, прыгожая мілагучная назва былога маёнтка, які знаходзіўся на ўсходнім беразе возера Дрывяты ў 10 кіламетрах ад Браслава. З італьянскай, ці французскай моваў назва перакладаецца як "прыгожая гара". У краінах Заходняй Еўропы - дзесяткі такіх тапонімаў. У Італіі - гэта назвы ўрочышчаў, невялікіх паселішчаў. Гарады з назвай Бяльмонт ёсць у Францыі, Іспаніі, Партугаліі, Вялікабрытаніі. У бліжэйшых да Браслаўшчыны рэгіёнах існавалі маёнткі Бяльмонт у Латгаліі, на Полаччыне. Але не толькі назва маёнтка лучыла Браслаўшчыну з еўрапейскай тапанімікай. На яго тэрыторыі існавалі дзесяткі назваў іншаземнага, пераважна італьянскага паходжання. Аб гэтым цікавейшым факце чытайце матэрыялы на с.4-5*

* * *

*Перлінай Браслаўшчыны маёнтак лічылі многія. Нічога дзіўнага - побач з Браславам існаваў велізарны сядзібны комплекс з двухпавярховым мураваным палацам, са сваім касцёлам, дзесяткамі гаспадарчых пабудоў, пажарнай дружынай. Бяльмонцкі парк - адзін з самых вялікіх па плошчы ў Беларусі. Матэрыяльная культура маёнтка пераўзыходзіла патэнцыял Браслава. Гісторыя маёнтка звязана з імёнамі не аднаго дзесятка вядомых дзеячоў, сярод якіх ураджэнцы іншых краін, творчыя асобы, палкаводцы, манархі. Тут выхоўваўся сын апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста. Бяльмонты - гэта яшчэ велізарныя зямельныя абшары, якія цягнуліся на дзесяткі кіламетраў. Тут існавала ўзорная лясная гаспадарка, некалькі прамысловых прадпрыемстваў. Матэрыялы звязаныя з гісторыяй Бяльмонтаў раскіданы па дзесятках архіваў розных краін Еўропы. Дзесьці ў Расіі перахоўваюцца зборы, эвакуіраваныя ў 1915 г. Даследчыкаў чакаюць новыя адкрыцці.*

*У ХХ ст. маёнтку былі нанесены велізарныя страты. Велічны палац у руінах перанёс войны і знік у 1940-50-я гады з-за глупства мясцовых уладаў, якія дазволілі разбіраць будынак на матэрыял. У 1976 г. мясцовыя ўлады яшчэ раз даведчылі сваё глупства і недальнабачнасць, скасаваўшы назву Бяльмонты як назву паселішча.*

*Цяпер Бяльмонты - гэта назва рэшткаў парку, аднаўленай каталіцкай парафіі і ляснога масіву на поўдзень ад воз.Дрывяты. Былой велічы маёнтка ніколі не вярнуць, але гістарычныя і краязнаўчыя даследванні дазволяць адпаведным чынам адлюстраваць значэнне Бяльмонтаў для Браслаўшчыны.*

*Гэты нумар выдання "Павет" цалкам прысвечаны мінуламу маёнтка Бяльмонты.*



**Руіны палаца XVIII ст. Фотаздымак 1920-х гг.**

# З гісторыі маёнтка Бяльмонты

Гісторыя рэзідэнцыі з назвай Бяльмонты (ад паловы XVIII ст.) звязана з прадстаўнікамі родаў іншаземнага паходжання Гільзенаў, Мануццы, Плятараў (два апошніх былі графскімі родамі), а па жаночай лініі - Патоцкіх, Струтынскіх, Сабанскіх.

Ян Аўгуст Гільзен (1702 - 1767 гг.), ваявода мінскі, залажыцель рэзідэнцыі, адносіўся да ліку самых заможных асоб паўночна-усходняй часткі Рэчы Паспалітай.

У 1768 г. пры маёнтку быў заснаваны філіяльны касцёл Браслаўскай парафіі. Паводле апісання 1784 года філія ўключала толькі 22 паселішчы, у тым ліку мястэчка Замошша, 8 вёсак, засценкі і сядзібы.

У 1768 г. у Бяльмонтах зрабіў прыпынак Шыман Касакоўскі (1741 - 1794 гг.), дзяржаўны дзеяч, гетман Вялікага княства Літоўскага. Быў адным з кіраўнікоў Барскай канфедэрацыі, пазней падтрымаў Таргавіцкую канфедэрацыю. Падчас паўстання Т.Касцюшкі павешаны ў Вільні за здраду. Дарэчы, жонкай гетмана была Тэрэза з Патоцкіх, першая жонка ўладальніка Бяльмонтаў Юзафа Ежы Гільзена.

Паводле тэстамента Юзафа Ежы Гільзена (1783 г.) сяляне маёнтка павінны былі атрымаць асабістую волю, а палова даходаў ад маёнтка накіроўвацца на асвету дзяцей збяднелай шляхты, медыцынскую дапамогу, на карысць навукі і культуры. Ю.Гільзен адпісаў вялікую суму грошай на карысць касцёла ў Бяльмонтах і выказаў жаданне быць пахаваным у гэтым храме.

У 1798 г. мураваны палац, збудаваны Гільзенамі, налічваў 19 пакояў на першым паверсе і 14 - на другім. У маёнтку мелася некалькі іншых будынкаў. У гэтым жа годзе Бяльмонты былі прададзены графу Мікалаю Мануццы.

Напрыканцы XVIII - пачатку XIX стст. аканомам у Бяльмонтах працаваў Рафал Траяноўскі, капітан войск ВКЛ, удзельнік паўстання 1794 г. У маёнтку прайшлі дзіцячыя гады яго сына Яна Траяноўскага (1799 - 1878 гг.), будучага мастака, вядомага сваімі вольналюбімымі і атэістычнымі поглядамі.

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. у маёнтку ўладарыў сын Мікалая Мануццы, графа, італьянца, знакамітага авантурыста, - Станіслаў, якога аднак лічылі сынам караля Станіслава Аўгуста. С.Мануццы быў добрым гаспадаром, ініцыіраваў вырошчванне спецыяльнага гатунку якаснага льну, славіўся як філантроп, прыхільнік народнай асветы. На апошнія мэты ў 1806 г. ахвяраваў 26 тыс. рублёў - вялікую па тых часах суму. Жонка Станіслава, Канстанцыя Плятэр, актыўна займалася дабрачыннай дзейнасцю ў маёнтку. Да прыкладу, утрымлівала пансіянат для дзяўчат.



Сядзібны дом у пачатку XX ст.

Паводле ўспамінаў 1811 г. увесь распарадак палацавага жыцця, якога прытрымліваўся С.Мануццы, павінен быў нагадваць уклад жыцця імператарскага двара ў Пецяргофскай рэзідэнцыі.

Напрыканцы XVIII - пачатку XIX стст. Мануццы трымалі ў Бяльмонтах палацавы аркестр, які ў тым ліку даваў адмысловыя канцэрты з удзелам хору, што складаўся з дзяўчат пансіянату.

Пры адступленні расійскіх войскаў 6 ліпеня 1812 г. а 10 гадзіне раніцы ў Бяльмонты прыбылі імператар Аляксандр I і яго брат Канстанцін і ў той жа вечар выправіліся ў бок Дрысы.

У час вайны 1812 г. у маёнтку размяшчаўся штаб Барклая дэ Толі, камандуючага расійскімі войскамі. Тут пабывала цэлая плеяда бліскучых афіцэраў. У наваколлі Бяльмонтаў расіяне мелі магчымасць згрупаваць усе свае сілы для рашаючай бітвы.

Пасля расіян у Бяльмонтах на некалькі дзён прыпыніўся Іахім Мюрат, маршал Францыі, кароль Неапалітанскі. Паводле некаторых крыніц ён быў захоплены прыгажосцю графіні Канстанцыі. У Бяльмонтах І.Мюрат напісаў лірычны верш, пазней пакладзены на музыку.

У жніўні 1812 г. расіяне зрабілі рэйд па тэрыторыі, занятай французамі, да Бяльмонтаў і захапілі С.Мануццы, які актыўна дзейнічаў на карысць французскіх улад. У прыватнасці ён выязджаў на сустрэчу з імператарам Напалеонам, маючы рэкамендацыі ад І.Мюрата. Было захоплена яшчэ 80 чалавек. Па распараджэнню імператара Аляксандра I С.Мануццы быў адпраўлены ў Санкт-Пецярбург.

У 1818 г. да палаца была дабудавана капліца, якая мела рысы класіцызму. Пазней капліца стала парафіяльным касцёлам.

Увосень 1821 г., падчас вайсковых манеўраў у Бяльмонтах сустрэліся дзекабрысты Міхаіл Лунін і Аляксандр Поджыа. Вядома, што апошні быў сябрам Я.Траяноўскага.

У 20-я гады XIX ст. С.Мануццы пачаў перабудову палаца. Былі разабраны дах, унутраныя сцены будынка. Праца прыпынілася па прычыне раптоўнай смерці графа ў 1829 г. Наступныя ўладальнікі маёнтка Плятэры ў 30-я гады XIX ст. прыстасавалі пад рэзідэнцыю вялізны будынак флігеля. Двухпавярховы палац з гэтай пары існаваў толькі як архітэктурная дэкарацыя маёнтка.

У 60-я гады XIX ст. абшары маёнтка налічвалі звыш 55 тыс. га., у тым ліку значныя лясныя масівы. Граф Фелікс Плятэр залажыў у маёнтку асновы лясной гаспадаркі. Былі прарыты меліярацыйныя і сплаўныя каналы даўжынёй 136 вёрст. Праз Дрывяты, Друйку лес сплаўляўся да Рыгі. У паўднёвай частцы ляснога масіва маёнтка было закладзена некалькі фабрык па перапрацоўцы лесу (запалкавай саломкі, тары, кардонная). Каля прадпрыемстваў узнік фабрычны пасёлак Плятэрова.




**Маёнтак Бяльмонты на плане XIX ст.**

У 1863 г. шэраг служачых і падданых маёнтка прымалі ўдзел у паўстанні.

У 1876 г. тры замалёўкі Бяльмонцкага палаца і капліцы Напалеон Орда (1807 - 1883 гг.), вядомы мастак, кампазітар. Арыгіналы зберагаюцца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве.

У другой палове XIX ст. Бяльмонты славіліся сваімі аранжэрэямі. Іх налічвалася 5, у тым ліку для персікаў, інжыру, вінаграду. Садавіна з Бяльмонтаў рэалізоўвалася часткова ў Дынабургу. Першая аранжэрэя закладзена ў канцы XVIII ст.

У канцы XIX - пачатку XX стст. маёнтак вылучаўся ўзорнай сельскай гаспадаркай, аб развіцці якой дбаў Ф.Плятэр. Побач з Бяльмонтамі існавалі фермы з пародзістымі жывёламі. Пародзістую жывёлу трымалі і ў фальварках. Раслінагадоўля давала вельмі высокія ўраджаі. Граф трымаў вялікі парк сучасных сельгасмашын. Пры маёнтку дзейнічаў бровар і паравы млын. Па многіх напрамках сельскай гаспадаркі адбывалася практычнае навучанне. Практычны курс у Бяльмонтах праходзіў Станіслаў Булак-Балаховіч (1883 - 1939 гг.), выдатны беларускі дзяржаўны і грамадскі дзеяч, генерал.

З канца XIX ст. гісторыя маёнтка цесна звязана з імем Станіслава Нарбута (1853 - 1926 гг.), таленавітага браслаўскага лекара, грамадскага дзеяча, які быў сябрам Плятэраў і іх асабістым лекарам.

У пачатку XX ст. вершаваную "Баладу аб Бяльмонтах" напісаў Генрык Скірмунт (1868 - 1939 гг.), паэт, кампазітар, прадстаўнік роду, з якога выйшла шмат польскіх і беларускіх дзеячаў.

У пачатку XX ст. Плятэры будуюць у Браславе дом. Мураваны будынак па вул.Вялікай (сучаснай Ленінскай) служыў рэзідэнцыяй падчас прыезду ўладальнікаў Бяльмонтаў у Браслаў. Плятэры адыгрывалі значную ролю ў грамадскім жыцці мястэчка.

У 1908 г. была заснавана Бяльмонцкая пажарная дружына. Удзел у яе стварэнні прымаў і С.Нарбут, заснавальнік і кіраўнік дружыны ў Браславе. Граф Ф.Плятэр добра фінансаваў дружыну, якая мела парк лепшы, чым у Браславе. У 1909 годзе дружына налічвала 47 чалавек.

Перад першай сусветнай вайной маёнтак Бяльмонты валодаў каштоўнай калекцыяй старажытных рэчаў. Сярод іх - каштоўная мэбля ў стылі Людовіка XVI. Архіў маёнтка ўтрымліваў дакументы XVI ст., бібліятэка налічвала 3 тысячы тамоў. Архіў і бібліятэка былі апісаны вядомым даследчыкам Станіславам Пташыцкім (1853 - 1933 гг.). У 1915 г. бяльмонцкія зборы вывезены ў Расію. Слядоў іх выявіць да гэтай пары не ўдалося.




**Пячатка Бяльмонцкай пажарнай дружыны. Пач.XX ст.**



**На гэтым фотаздымку выразна бачны атык - дэкаратыўная сценка пад карнізам, якая аздабляла палац**

У 1918 годзе пасля адыходу нямецкіх войск маёнтак разрабаваны і спалены сялянамі.

У 1924 годзе ў родавай усыпальніцы пры маёнтку пахаваны граф Фелікс Плятэр, адзін з самых лепшых гаспадароў у гісторыі маёнтка.

У 20 - 30-я гады XX ст. рэзідэнцыя ўладальнікаў знаходзілася ў адным з прыстасаваных будынкаў маёнтка. Гэты будынак быў спалены ў другую сусветную вайну партызанамі.

У савецкі перыяд побач з маёнткам узнікла вёска Бяльмонты. У 1949 г. быў утвораны калгас імя Молатава. На базе некаторых гаспадарчых будынкаў маёнтка дзейнічала МТС.

У 1974 г. вёска Бяльмонты далучана да вёскі Ахрэмаўцы, аднак старая назва да гэтай пары ўжываецца як неафіцыйная.

# Італьянскі след у тапаніміцы маёнтка Бяльмонты

Кастусь Шыдлоўскі

Каля 30 гадоў Бяльмонтамі валодалі італьянцы Мануцці і таму ёсць спакуса лічыць назву маёнтка італьянскага паходжання. Тым больш, што такі тапонім шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Італіі. Аднак гістарычныя матэрыялы сведчаць, што назва Бяльмонты ўзнікла за некалькі дзесяткаў гадоў як сядзіба стала радавым гняздом Мануцці. Прыгожую мілагучную назву Браслаўшчыне падаравалі Гільзены, прыхільнікі французскай культуры. Як жа больш правільна казаць - Бяльмонт, ці Бяльмонты. Гістарычны матэрыял, у тым ліку картаграфічны, падае толькі адзін варыянт - Бяльмонт. Але як сведчаць старажылы ў наваколлі заўсёды казалі Бяльмонты. Такі варыянт замацаваўся за вёскай пры маёнтку і ў савецкія часы. Магчыма гэта ўплыў італьянскага вымаўлення графоў Мануцці, які прыжыўся сярод сялян (ад Бяльмонці). Вось і першы італьянскі след у тапаніміцы маёнтка.

Кідаецца ў вочы нетутэйшасць назваў вёсак, размешчаных непадалёку ад Бяльмонтаў - Разета, Дукелі. Пры дэталёвым даследванні мясцовай тапанімікі аказалася, што такіх назваў значна болей. Больш таго, аказалася, што тапонімы італьянскага паходжання можна знайсці ў іншых мясцінах, уладальнікамі якіх былі Мануцці. Канцэнтрыруюцца яны там, дзе знаходзіліся ранейшыя графскія рэзідэнцыі (Бяльмонты Мануцці набылі ў 1798 г., а першыя ўладанні на Браслаўшчыне атрымалі ў 1776 г.). Італьянскі пласт тапанімікі былых абшараў уладанняў Мануцці ( а пасля 1798 г. іх можна назваць Бяльмонцкімі) налічвае некалькі дзесяткаў назваў, значная частка якіх нажаль знікла з сучаснай карты са знікненнем паселішчаў.

Напачатку звернем увагу на наваколле Бяльмонцкай рэзідэнцыі. Вернемся да назваў вёсак Разета і Дукелі, якія існуюць і цяпер. Ад іх паходзяць і назвы двух вялікіх заліваў возера Дрывяты - Дукельская і Разецкая Лукі. З Разетай спачатку ўсё выглядала проста - назва ад жаночага імя італьянскага гучання. Аднак з'явілася іншая версія. Дапамог выпадак. Віктар Карэнік з Плюсаў, які пастаянна бярэ ў музеі гістарычную літаратуру, неяк спытаў: "Ці мае дачыненне браслаўская Разета да Разэты, рукава ракі Ніл, якая згадваецца ў рамане І.Яфрэмава "На ўскраіне айкумены"?" Сапраўды, існавала такая назва ў Егіпце, больш таго, пры ўпадзенні рукава ў Міжземнае мора быў горад Разета (сучасны горад Рашыд на беразе заліва Абу-Кір, на ўсход ад знакамітай Александрыі). У 1799 г. французскія жаўнеры знайшлі ў наваколлі Разеты пліту з таямнічымі надпісамі. Разецкі камень быў вывезены ў Еўропу і стаў адной з тагачасных сенсацый. Ён захоўваецца ў Брытанскім музеі ў Лондане. Іерагліфічны тэкст пліты быў дэшыфраваны ў 1882 г. французскім даследчыкам Ж.Шампальенам. Ці не мог ушанаваць сенсацыйную знаходку ў назве вёсачкі адукаваны граф Мікалай Мануцці? Знайдзіце на карце Егіпта горад Рашыд і паглядзіце на карту Браслаўшчыны. Размяшчэнне абодвух Разет ідэнтычнае. Нават формы берагавых ліній маюць падабенства! На паўднёвы захад ад егіпецкай Разеты размяюцца шматлікія нізіны, занятыя саланчакамі, у многіх з іх былі аазісы. У такім жа кірунку ад браслаўскай Разеты - вялізнае балота. На карце XIX- пачатку XX стст. зафіксавана яго дзіўная назва - Пальма. Вёска Дукелі таксама знаходзіцца на беразе Браслаўскага возера. Напачатку пры расшыфроўцы назвы за аснову бралася лацінскае "*дук*" -князь. Але ў энцыклапедыях падаецца геаграфічны і гістарычны тэрмін Дукля (Дзіаклея,



**На карце пачатку XX ст. - наваколле Бяльмонцкай сядзібы з вёскамі Разета, Дукелі, балотам Пальма, паўостравам Бона**




**Сучасная карта Егіпта. На ўсход ад Александрыі - г.Рашыд, даўняя Разета. Берагавыя лініі ў наваколлі абодвух Разет вельмі падобныя**

Зэта). Так называлася гістарычная вобласць на беразе Адрыятычнага мора, заселеная ў VII ст. сербскім племем дуклян. З IX ст. існавала княства Дукля. Не будзем паглыбляцца ў гісторыю гэтай тэрыторыі. Адзначым толькі адну акалічнасць: пад пагрозай турэцкай экспансіі Дукля ў 1944 г. прызнала верхавенства ўлады Венецыі. Але ж Мануцці - венецыянец.

Дарэчы, сучасная назва Дуклі - Чарнагорыя, ад 2006 г. яна з'яўляецца самастойнай еўрапейскай краінай.

Выглядае, што граф М.Мануцы быў вялікім жартаўніком. Адносна непадалёку ад Дукеляў знаходзім назву фальварка Марцэбаліна, паводле крыніц XIX ст. - Марцебелліно (*белліно*-прыгожанькая). У наваколлі былой сядзібы многім вядома паўвыспа Ушына. Але нават старажылы не памятаюць, што ў XIX - пач.XX ст. гэта мясцовасць называлася Бона. У разгадцы італьянскай назвы магчыма некалькі варыянтаў. У гісторыі вядома такая асоба - каралева Бона (1494-1557), другая жонка Жыгімонта Старога. Дарэчы, яна валодала велізарнымі уладаннямі на тэрыторыі Беларусі. Родам Бона Сфорца з Італіі, горада Віджовано (непадалёку ад сучаснага Мілана), які ўваходзіў у склад Ламбардзіі. Непадалёку ад Віджовано праходзілі межы Венецыянскай рэспублікі. Абедзве гістарычныя вобласці мелі шмат агульнага ў гісторыі. Згадаем Ламбардскую лігу XII-XIII стст.

Бона Дэа - багіня рымскай міфалогіі, добрая багіня, адна з багінь-маці, якая звязана з лесам, раслліннасцю, асабліва з лекавымі зёлкамі. Паўвыспа Бона - маляўнічы куточак за паркам. Яшчэ Бона - святая ў каталіцкім пантэоне, У адным з перапісаў маёмасці графа Мануцы згадваецца рэлікварый св.Боны з аўтэнтычнай папскай булай.

Пашукаем яшчэ незвычайных назваў каля Бяльмонтаў і адзначым: Ляротa (жаночае імя ў Італіі), Фартуна (багіня рымскай міфалогіі, шчасця, удачы, выпадку), Мілагра ( ? ), Зімірка (магчыма Земфіра).

Першае ўладанне, якое атрымаў граф М.Мануцы ад караля Станіслава Аўгуста былі Опсаўскае і Даманаўскае староствы. У Опсе існавала графская рэзідэнцыя. Опса - назва вельмі старажытная, у гістарычных крыніцах вядома з 1500 г. і мае балцкае паходжанне. Аднак магчыма граф быў уражаны адным супадзеннем. Опс ў рымскай міфалогіі з'яўляецца багіняй урадлівасці, багатага жніва, пасеваў. Яе культ блізкі да культа яшчэ аднаго рымскага бога Конса, вартаўніка зерневых запасаў. Непадалёку ад Опсы знаходзіцца Кансталіна. Зноў супадзенне, але цікавае. Ці не яно падштурхнула графа італьянца ушаноўваць герояў рымскай міфалогіі ў назвах беларускіх паселішчаў? Такія прыклады знойдзем каля Опсы. Напрыклад Купідла, невялікае паселішча на поўнач ад рэзідэнцыі. - моцная жарсць, боства кахання. Побач - вёска Эйдымяны (сучаснае напісанне Адымянішкі). Эндзіміен - герой грэчаскай міфалогіі, прыгожы юнак якога Зеўс узяў на неба. У гэтым жа мікрарэгіёне фіксуем назвы - Жылінда і Клярында. Філолагі тлумачаць, што канчаткі *-інды, -анда* і падобныя характэрныя для італьянскай мовы (згадаем знакамітую Джаконду). Клярында ўтварылася ад лацінскага імя Кларус (ясны, светлы). Жылінда мае германскія карані звязаныя са словам ліпа. Жылінда - мясцовасць дзе шмат ліпаў.

У ходзе падобных росшукаў узнікае шмат спакусаў далучыць да італьянскіх як мага больш назваў. І тлумачэнні могуць быць пераканаўчымі. Вакол опсаўскага арэала італьянскіх назваў знаходзіцца вёска і возера Рожава. Быў яшчэ такі фальварак. У некаторых крыніцах сустракаем напісанне Розава. Згадаем італьянскае *Rosa* - чырвоны. Ручаіна, што выцякае з возера называецца Даўблянка (віапка - белая). Чырвонае возера і белая ручаіна. Нібыта падобна, але гэта падабенства чыста знешняе.

Працягнем нашае знаёмства з італьянскімі мясцінамі Браслаўшчыны. У 1780 г.М.Мануцы набывае ў Цеханавецкіх Богіна і навакольныя абшары. Гэта вельмі прыгожыя мясціны. Богінскае возера напэўна адно з самых маляўнічых на Браслаўшчыне. Граф меў рэзідэнцыю ў Богіна, а потым вельмі палюбіў фальварак Альбінова. У ім стары М.Мануцы правёў апошнія гады жыцця, шукаючы спакою. З італьянскай мовы назва перакладаецца як сівы, бялёсы (згадаем шырока вядомы тэрмін *альбінос*). Мясцовасць побач з фальваркам нізінная, тут часта выпадае раса, ці іней. Тады пануе бялёсы колер. Падобнага паходжання назва вёскі Луні, што недалёка ад Слабодкі. Яшчэ каля Альбінова фіксуецца назва ўрочышча Пальма (сустракаецца другі раз). Пазней на поўдзень ад фальварка ўзнікла вёска Альбінаўка. На захад ад Альбінова існаваў засценак Адоніс. Шмат каму вядома імя гэтага героя рымскай міфалогіі. Адоніс - боства, звязанае з перыядамі ўмірання і адраджэння прыроды. Лёгка ўявіць, што такую назву мог прапанаваць састарэлы граф, які ўжо рыхтаваўся да адыходу ў іншы свет. Вядома, што граф быў ініцыятарам узвядзення на сваіх землях многіх фальваркаў. Найбольш поўна міф аб Адонісе прадстаўлены ў творах слыннага паэта Авідзія. У некалькіх кіламетрах на паўночны ўсход ад таго месца дзе быў фальварак Альбінова ёсць сучасная вёска Эйвідавічы. У крыніцах XIX ст. яна называецца трохі іначай - Авідавічы. Так што не выключана, што назва гэтай лясной вёсачкі ўслаўляе выдатнага паэта антычнай цывілізацыі. Публій Авідзій Назон, аўтар зборнікаў вершаў пра каханне, а таксама твора «Метамарфозы», у якой распрацавана тэма рымскай міфалогіі. Творчасць паэта паўплывала на ўсю заходнееўрапейскую паэзію. Пераклады Авідзія ёсць у нашага класіка Максіма Багдановіча. Нарадзіўся Авідзій у 43 годзе да нашай эры, значыць 2007 год - юбілейны., 2050 гадоў з дня яго народзінаў. І яшчэ, Авідзій - рымскі паэт, любіў вечны горад, трызніў аб ім у час выгнання. Можа не выпадкова побач з Авідавічамі з'явіўся засценак Раманаўка (Рома - так па-італьянску гучыць назва славутай сталіцы).Ёсць спакуса аднесці да італьянскіх такія тапонімы побач з Богіна як Разалінова, Ідалінова, нават Белевічы. Аднак пакінем іх у спакоі.

Звернем на самы поўдзень Браслаўшчыны - Казяны і наваколле. Мануцы быў землеўладальнікам з 1796 г і тут. У гэтай мясцовасці паселішчаў увогуле няшмат, болей балот і лясоў. Звернем увагу на нетыповыя назвы: Пента (ад лацінскага пяць, напрыклад Пентагон - будынак з пяццю гранямі), а побач Віняграды і Генужа.

Па-за межамі сучаснай Браслаўшчыны, у наваколлі былога мястэчка Ёды (гэта тэрыторыя адносілася да гістарычнай Браслаўшчыны) ёсць яшчэ адзін тапанімічны кур'ёз іншаземнага паходжання. Тут існавала паселішча Дзіянісава, побач Вінніца, трохі далей Весялова. Дзіянісій ў грэцкай міфалогіі бог расліннасці і вінаградарства. Сэнсавы ланцужок назваў прасачыць нескладана. Ад гэтых мясцін да Бяльмонтаў - рукой махнуць. Аднак уладальнікі маёнтка наўрацце прыклаліся да ўзнікнення гэтых назваў, не іх парафія. А можа іх прыклад некаму спадабаўся?

Увогуле, прапанаваны чытачу матэрыял, гэта толькі разважанні на тэму. Патрэбны дэталёвыя даследванні з фіксацыяй часу ўзнікнення паселішчаў з "падазронымі" назвамі, варыянтаў іх напісання. Пакуль што падаецца, што разважанні не пазбаўлены падстаў. Большая частка тапонімаў, якія згадваліся ў матэрыяле - гэта засценкі, фальваркі, ці зусім маленькія вёскі, якія насамрэч маглі быць названы адпаведна з фантазіяй уладальнікаў. Фантазіі трэба сказаць багатай і разнастайнай.

* Пры падрыхтоўцы гэтага матэрыяла аўтар скарыстаўся каштоўнейшымі парадамі Надзеі і Уладзіміра Кандрусевічаў, для якіх італьянская мова - адно з захапленняў, а таксама Ніколы Антаначы, выкладчыка лінгвістычнага ўніверсітэта ў Мінску, сапраўднага італьянца. Усім ім шчырая ўдзячнасць.

Кастусь Шыдлоўскі

# Бяльмонты – рэзідэнцыя караля Неапаля

У 1999 г. у Браслаў прыязджаў вядомы французскі гісторык, даследчык эпохі напалеонаўскіх войск, дырэктар Цэнтра Напалеонаўскіх даследаванняў Фернан Бакур. Ён хацеў азнаёміцца з мясцінамі, звязанымі з адным з герояў яго даследаванняў Іаахімам Мюратам (1767 – 1815 гг.). Гэта быў адзін з найбольш здольных палкаводцаў, маршал, паплечнік імператара Францыі, сваяк (муж сястры Напалеона Караліны). Акрамя гэтага ён насіў гучны тытул – кароль Неапалітанскі. Неапалітанскае каралеўства існавала ў 1806 – 1815 гадах, падчас акупацыі французскіх войск. Напалеон на чале гэтага дзяржаўнага ўтварэння ставіў сваіх палкаводцаў. Спачатку – Жозефа Банапарта (1806 – 1808 гг.), Пасля І.Мюрата (1808 – 1815 гг.). Як кароль Неапалітанскі Мюрат насіў імя Іаахім – Напалеон.

У час вайны Францыі з Расійскай імперыяй Напалеон даручыў Мюрату камандаванне двума кавалерыйскімі карпусамі, якія дзейнічалі асобна ад Вялікай Арміі. Мюрат рухаўся за адступаючай у бок Дрысы 1-й Заходняй Арміяй расіян пад камандаваннем Барклая дэ Толі. Асноўныя сілы і расіян, і Мюрата праходзілі праз Браслаўшчыну.

На Браслаўшчыне І.Мюрат быў 11 дзён, з якіх 7 прыпадае на Бяльмонты. Маршал Францыі не спяшаўся ўслед за непрыяцелем. Напалеон паставіў перад ім задачу назіраць за іх дзеяннямі, пастаянна інфарміраваць аб сітуацыі і пры неабход-насці забяспечваць прыкрыццё аперацый Вялікай Арміі. Мюрату карцела знайсці зручнае месца для размяшчэння стаўкі. Ён не знайшоў такога ні ў Відзах, ні ў Опсе, ні ў Браславе, які французы ахарактарызавалі ўвогуле як вёску.

Бяльмонты з прадстаўнічым мураваным палацам падыходзілі для рэзідэнцыі Мюрата як найбольш. Напачатку маёнтак даў прытулак расіянам. 6 ліпеня а 10-й гадзіне раніцы сюды завітаў расійскі імператар Аляксандр І з вялікім князем Канстанцінам. Імператар спяшаўся ў Дрысу і не стаў затрымлівацца ў палацы на ноч. Увечары імператарская стаўка рушыла да Іказні. Палац заняў са штабам Барклай дэ Толі. 9 ліпеня ўсе расійскія часці пакінулі Бяльмонты і наваколле. Генерал Себасціані, які ўвайшоў 10 ліпеня ў Браслаў, накіраваў у маёнтак кавалерыйскую брыгаду Сен-Жэні (генерала, якога возьмуць у палон гусары Я.Кульнёва падчас Друйскага бою). Сам Мюрат распарадзіўся адправіць у Бяльмонты часці Фрыяна і Гюдэна. Неўзабаве і сам накіраваўся сюды, бо паводле звестак генерала Себасціані, нічога іншага годнага маршала і караля ў наваколлі Браслава не было. (Адзначым, што да прызначэння на каралеўскую пасаду І.Мюрат быў уладальнікам шыкоўнага палаца на Елісейскіх палях у Парыжы - сучаснай рэзідэнцыі прэзідэнта Францыі. Раскоша акружала яго і ў Неапалі. А па паходжанні І.Мюрат - сын карчмара)

13 ліпеня І.Мюрат прыбывае ў Бяльмонты. Колькасць праведзеных тут дзён сведчыць, што палкаводзец атрымаў зручную рэзідэнцыю. Мюрат вядзе вельмі ажыўленую перапіску. Па некалькі разоў на дзень ён адпраўляе лісты і данясенні імператару. Усяго іх напісана каля 20. Лісты Мюрата да Напалеона апублікаваны ў першым томе працы гісторыка Фабры (Парыж.1900). Мюрат падрабязна распавядаў пра дзеянні і паводзіны расіян, дзеянні падначаленных яму часцей. З Бяльмонтаў Мюрат паведамляў аб сутычках з кавалерыстамі генерала Кульнева пад Друяй, аб сітуацыі вакол Дрысенскага лагера. З 18 ліпеня Напалеон увогуле знаходзіўся ўсяго толькі ў 70 км ад Бяльмонтаў, у Глыбокім. З Бяльмонтаў І.Мюрат адпраўляў карэспандэнцыю і іншым адрасатам, у т.л. і па справах свайго каралеўства. У сваю чаргу ў палац пастаянна сцякалася інфармацыя ад падраздзяленняў, падпарадкаваных палкаводцу. Няма сумненняў, што І.Мюрат шмат працаваў. Аднак напэўна меў магчымасць адпачыць ад важных клопатаў. Пра гэта сведчыць верш, знойдзены ў яго архіве. Напісаны ён у Бяльмонтах.

*Тут гаспадарыць мяккі мір, нягледзячы на вайну,*
*Ціш лясоў, іх гасціннае асяроддзе*
*Запрашаюць да адпачынку абязброенная вайна,*
*І ўсё тут дыхае шчасцем і пяшчотай.*



Уладзімір Кандрусевіч. Мюрат у Бяльмонтах. Дрэварыт

Гэты невялікі фрагмент сведчыць аб рамантычным настроі маршала. Традыцыя кажа, што І.Мюрату вельмі спадабалася Канстанцыя Плятэр, жонка ўладальніка маёнтка Станіслава Мануццы. Нават гаварылася аб нейкай рамантычнай сувязі і, што нібыта ў жанчыне трэба шукаць прычыну затрымкі Мюрата ў Бяльмонтах. Магчыма гэтыя звесткі не пазбаўлены сэнсу.

У караля Неапалітанскага былі добрыя стасункі з гаспадаром, якога ён лічыў за франкафіла. Сапраўды, С.Мануццы вітаў Напалеона і французскую ўладу, стаў надпрэфектам Браслаўскага павета. Калі С.Мануццы адправіўся на сустрэчу з імператарам, Мюрат даў яму рэкамендацыйны ліст, у якім адзначалася і тое, што ўладальнік маёнтка належыць да кола ўплывовых асоб у сваім рэгіёне.

Напэўна І.Мюрату імпанавала і назва самага маёнтка, прыгажосць краявідаў. Па іроніі лёсу ў XX ст. некаторыя турысты называлі Браслаў з-за азёрных краявідаў Паўночным Неапалем, Замкавую гару параўноўвалі з Везувіем. У добрае надвор'е кароль Неапаля мог бачыць і Браслаў з яго дзесяткам хацін і сілуэт гарадзішча, толькі наўрацце рамантычнае параўнанне магло прыйсці яму да галавы. Дарэчы, І.Мюрат быў удзельнікам Егіпецкай экспедыцыі канца XVIII ст. іі напэўна ведаў пра Разецкі камень. Ці звярнуў ён увагу на назву вёскі Разета, праз якую праязджаў па дарозе з Опсы?

Што да верша, напісанага ў Бяльмонтах, то пазней у Неапалі да яго сачынілі музыку.

Якія б не былі прычыны затрымкі І.Мюрата ў Бяльмонтах, сітуацыя вымушала рухацца далей. 19 ліпеня, увечары, Мюрат пераязджае ў Навапаку (гэта яшчэ гістарычная Браслаўшчына, сучасны Мёрскі раён). У Бяльмонтах засталося каля 50 нямоглых жаўнераў. Напрыканцы месяца палкаводзец быў ужо на Смаленшчыне.

У гісторыі Бяльмонцкага палаца ліпеньскія дні 1812 г. – безумоўная кульмінацыя. Бліскучая роля каралеўскай рэзідэнцыі нажаль аказалася вельмі кароткай. Неўзабаве прадстаўнічы будынак пачалі руйнаваць, па волі гаспадара і былая веліч да рэзідэнцыі ўжо ніколі не вернецца.

# Напалеон у Бяльмонтах

Не, размова ў гэтым матэрыяле пойдзе не пра імператара Францыі. Славуты палкаводзец падчас вайны 1812 г. прыпыняўся ў 70 кіламетрах ад маёнтка, у Беразвеччы пад Глыбокім. З Бяльмонтаў ён атрымліваў толькі лісты ад свайго палкаводца, маршала Францыі І.Мюрата. Чытач ужо ведае гэта.



**Н.Орда. Капліца і палац у Бяльмонтах. 12 чэрвеня 1876 г.**

Бяльмонты наведваў іншы Напалеон - Напалеон Орда (1807 - 1883 гг.), вядомы піяніст, кампазітар, мастак (імя сваё ён атрымаў у гонар французскага імператара). Нарадзіўся гэты дзеяч культуры братніх народаў Рэчы Паспалітай у нас, у Беларусі, на Палессі (сучасны Янаўскі раён Берасцейшчыны). 12 лютага 2007 года грамадскасць Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны, шэрагу іншых краін будзе адзначаць 200-годдзе з дня нараджэння Н.Орды. Некаторыя юбілейныя мерапрыемствы ўжо адбыліся. Да прыкладу, цэнтр імя Язэпа Драздовіча правёў мастацкі пленэр, прысвечаны Н.Ордзе, удзельнікі якога наведалі і Браслаўшчыну. Бо Браслаўшчына - адзін з тых шматлікіх рэгіёнаў былой Рэчы Паспалітай, дзе пабываў і сам мастак. Свае знакамітыя вандроўкі па краю мастак пачаў ужо ў сталым веку. А перад гэтым былі: і ўдзел у паўстанні 1830 - 1831 гг., адзначаны крыжом Virtuti Militari, і канфіскацыя маёнтка, і эміграцыя ў Заходнюю Еўропу. Н.Орда быў сябрам Адама Міцкевіча, Ф.Шапэна, Ф.Ліста. У 40-х гадах XIX ст. ён узначальваў італьянскую оперу ў Парыжы. У 50-х гадах захапіўся маляваннем з натуры. Аб'ездзіў прыгажэйшыя куточкі Францыі, Іспаніі, Партугаліі, Германіі, Англіі, Італіі, Швейцарыі. У 1856 годзе Н.Орда вяртаецца на радзіму. У гэты час захапіўся краявідамі Украіны і стаў рабіць шэраг замалёвак з натуры. Падчас гэтай працы выспела ідэя аб'ехаць тэрыторыю былой Рэчы Паспалітай і замаляваць славутыя гістарычныя мясціны, помнікі архітэктуры. Пачаліся сістэматычныя вандроўкі па даўніх ваяводствах рэспублікі.

У 1870-1874 гг. Н.Орда наведвае ваяводствы Кіеўскае і Падольскае, у 1874 - 1876 гг. - Ковеншчыну і Інфлянты (сучасная Латгалія), у 1876 - 1977 гг. - Віленшчыну і Магілёўшчыну. Плён паездак - сотні замалёвак, выкананых з дакладнасцю і стараннем. Большая частка прац Н.Орды зберагаецца ў двух музеях Польшчы: Кракаўскім нацыянальным (971 праца) і Варшаўскім нацыянальным (30 прац).

Сярод гэтага багацця ёсць і 6 замалёвак з Браслаўшчыны. Наш край Н.Орда наведаў летам 1876 г. Зрабіў замалёўкі Друі, Браслава, маёнтка Мейшты пад Відзамі, які звязаны з Ваўжэцкімі і Булак-Балаховічам (цяпер гэта тэрыторыя Літвы) і Бяльмонтаў. Бяльмонтам прысвечаны 3 замалёўкі. Першая выканана 12 чэрвеня, дзве другія - 30 чэрвеня і 1 ліпеня. Ці то маёнтак Н.Орда наведаў двойчы, ці то скарыстаўся гасціннасцю Плятэраў і адпачыў у прыгожым месцы. Замалёўка ад 12 чэрвеня прадстаўляе выгляд галоўнага праезду палаца з боку пад'язной дарогі. На пярэднім плане змешчана капліца, якая ў той час была дзейнічаючай. Двухпавярховы мураваны палац намаляваны так, што не відаць дэталяў архітэктуры, дэкору. Нават не заўважна, што будынак у стане руіны.



**Той жа сюжэт на замалёўцы ад 30 чэрвеня. Палац паказаны больш выразна**

30 чэрвеня Н.Орда паўтарыў замалёўку амаль з гэтай жа кропкі. У будынку палаца выразна вылучаюцца рызаліты (выступаючыя часткі), бачны атык, які завяршаў дэкор фасада, іншыя дэталі). Больш выразна чытаецца і архітэктура капліцы, асноўны аб'ём якой уяўляў сабой ратонду.

1 ліпеня выканана замалёўка фасада з боку парка. Бачны стромкі схіл пагорка з тэрасамі. Фасад з гэтага боку меў толькі

цэнтральны рызаліт. Можна заўважыць, што дах разбураны не ўсюды, ён захаваўся ў той частцы, якая прымыкала да капліцы.

На пярэднім плане замалёўкі - элементы парка і прасека, якая вяла да возера, прысады з розных парод дрэў і бераг штучнага стаўка. Замалёўка была выканана з вострава, што ў цэнтры гэтага стаўка. Па тэхніцы выканання ўсе тры працы Н.Орды - гэта малюнкі алоўкам з падмалёўкай акварэллю.

Калі Напалеон Орда рабіў свае замалёўкі па ўсёй былой Рэчы Паспалітай, ён усведамляў, што яго працы будуць мець не толькі мастацкую вартасць, але найперш - гістарычную. Мастак меў рацыю, шмат якія помнікі не захаваліся да нашага часу. Замалёўкі, выкананыя ў Бяльмонтах, таксама з'яўляюцца неацэнным гістарычным сведчаннем мінулага шыкоўнай рэзідэнцыі.



**Бяльмонцкая рэзідэнцыя з боку парка**

# ПЛАН БЯЛЬМОНЦКАГА НАВАКОЛЛЯ

У Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве зберагаецца рукапісны план наваколля маёнтка Бяльмонты (Ф.846, воп.16, спр.19540, арк.15). Зроблены ён вайскоўцамі ў пач. XIX ст., верагодней за ўсё перад вайной 1812 г., калі Браслаўшчына разглядалася як адзін з магчымых тэатраў ваенных дзеянняў.

Забудова сядзібы і парк знаходзяцца ў цэнтры плана, а наваколле ахоплівае каля 4 - 5 кіламетраў. План добра перадае рэльеф мясцовасці - пагоркі, паніжэнні, лясныя і балоцістыя масівы. Бачна, што асноўны палац займае пляцоўку аднаго з высокіх пагоркаў. Будынак палаца быў арыентаваны доўгай воссю з поўначы на поўдзень. У плане вылучаюцца тры рызаліты. Па баках ад палаца знаходзіліся два доўгія флігелі. Палац і флігелі ўтваралі ўнутраны двор. Да яго вяла дарога, перад уездам дарога па масце перасякала роў (хутчэй за ўсё, штучны). На ўсход ад палаца вылучаюцца контуры парка, з прасекай, што адкрывала перспектыву на возера, штучны ставок. Побач з пад'язной дарогай знаходзіліся касцёл (паўночней) і карчма (паўднёвей). У бліжэйшым наваколлі можна налічыць яшчэ каля 10 будынкаў, відаць, гаспадарчага прызначэння. Яны не канцэнтруюцца ў якім адным месцы, а адвольна раскіданы. Тэрыторыя, якая прымыкала да маёнтка, у той час была слаба заселена. Азначаны:




Ахрэмаўцы (12 двароў), Самавольцы (12), Разета (10), Пераміўцы (9), Шакуры (6), Пеўкуны (2), Марозаўшчына (1) і фальварак Альгердова. Калі параўнаць гэты план з картай пач. XX ст. розніца ў засяленні будзе вялізная. На плане адлюстравана дарожная сетка. Побач з маёнткам праходзіла дарога з Глыбокага да Браслава (участак Рыжскага гасцінца). Гэта дарога і цяпер захоўвае сваё важнае значэнне. Затое страцілі сваё значэнне дарогі, якія вялі ад Бяльмонт да Опсы, праз Разету і дарога да Іказні. Звяртае ўвагу прамая як струна дарога ад Бяльмонтаў на Самавольцы. Яе будоўлю трэба звязваць з маёнткам (дарога дакладна пераходзіла ў галоўны пад'езд да палаца і мела адну вось з прасекай у парку). На плане дарога яшчэ не завершана.

Дададзім, што на плане дакладна нанесены азёры і рачулкі наваколля.

Такім чынам, план каштоўны не толькі для даследавання гісторыі маёнтка, але і добра ілюструе геаграфічныя асаблівасці наваколля, якія надзвычай цікава параўноўваць з сучаснымі.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)